Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

17 кастрычніка 2003 года

№ 42 (443)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года






## Навіны рэгіёну



### Здарэнне на полі

АШМЯНЫ. На мінулым тыдні трэцякурсніцу мясцовага аграрна-эканамічнага каледжа пераехала машына ГАЗ-53, гружаная бульбай. Здарылася гэта на полі, дзе моладзь дапамагала збіраць ураджай. 21-гадовы вадзіцель, які даваў задні ход машыне, не заўважыў дзяўчыну. Пацярпелая, якая атрымала сур'ёзныя траўмы, знаходзіцца ў бальніцы.

**Ірына РАБУШКА.**

### Выраслі каноплі

АСТРАВЕЦ. Незвычайны ўраджай вырас сёлета на градах пенсіянеркі з Астраўца. Не морква і не бульба, а каноплі. Сабраць ураджай якіх і прапанавалі ёй у мінулыя выхадныя пагранічнікі з астравецкай камендатуры сумесна з супрацоўнікамі міліцыі. Пры ўзважванні каноплі, якія адносяцца да наркатычных рэчываў, пацягнулі на 14,5 кілаграма. Справа будзе перададзеная ў суд.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Сустрэліся жанкі

ВАЛОЖЫН. Дзелавыя жанчыны горада Мінска, пераважна юрысты і дактары, сустрэліся з жанчынамі Пральніцкага сельсавета. Гарадскія і сельскія жыхаркі знайшлі аб чым пагаварыць, што абмеркаваць. Акрамя таго, госці са сталіцы перадалі гуманітарную дапамогу, якая будзе размеркавана ў маламаёмныя сем'і.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Цягнула на грошы

МЯДЗЕЛ. Узбуджана крымінальная справа ў адносінах да адказнай асобы санаторыя "Баравое". Падазраваецца яна ў тым, што са студзеня 2001 года па верасень гэтага прысвоіла 8,4 мільярда рублёў з прэміяльнага фонду.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Усе на палеткі

МАЛАДЗЕЧНА. Штодня 400 маладзечанцаў дапамагаюць гаспадаркам раёна ўбіраць садавіну і гародніну. У вёсках працуюць работнікі прадпрыемстваў, навучэнцы, беспрацоўныя. Моцныя гаспадаркі разлічваюцца за работу натурпрадуктамі, астатнія – нічым.

**Ірына РАБУШКА.**

### Выйшлі на лесасеку

ВІЛЕЙКА. Калі вярсталася газета, на базе Вілейскага лясгаса пачаліся спаборніцтвы сярод лепшых лесарубаў Беларусі. Спаборніцтвы заканчваюцца сёння. Пераможцы паедуць у Італію на сусветныя спаборніцтвы. Больш падрабязна – у наступным нумары "РГ".

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Нясі мяне, мой дэльтаплан



Жыхар вёскі Краснае Анатоль Казакевіч сканструяваў дэльтаплан і змог падняцца на ім у неба.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхар вёскі Краснае Анатоль Казакевіч ажыццявіў мару дзяцінства: сканструяваў дэльтаплан і падняўся на ім у неба.**

Мы сядзелі ў майстэрні. Я – на бялюткай табурэтцы, Анатоль – на зэдліку прама ля станка. Гаварылі пра рэч неардынарную: дэльтапланы і самалёты, якія сталі неад'емнай часткай жыцця гэтага чалавека.

Яшчэ дзесяцігадовым хлопчыкам ён марыў, падобна птушцы, падняцца ў неба. Шмат хто, у тым ліку і бацькі, прымаў яго размовы пра самалёты і дэльтапланы за дзіцячае захапленне. Маўляў, каму ў такім узросце не хочацца быць лётчыкам альбо касманаўтам. Анатоль і сапраўды выбраў для сябе пасля заканчэння школы прафесію мірную – стаў кінамеханікам. "Круціў" у мясцовым Доме культуры кіно, арганізоўваў дыскатэкі, а па вечарах будаваў у двары свайго дома гараж. "Машыну будзе купляць", — гаварылі суседзі. А ён узяў ды патраціў грошы на іншае: набыў фрэзерны станок. Не новы, вядома, спісаны, які стаяў на адным з прадпрыемстваў без справы два гады. Якія толькі майстры не прыязджалі, каб яго адрамантаваць – безвынікова. А ў руках новага гаспадара ён узяў ды "загаварыў". Анатоль кажа, што ўся справа ў адносінах была: людзі, якія лічаць, што тэхніка мёртвая, глыбока памыляюцца.

"Я шмат думаў пра жыццё,— расказвае Анатоль, — усё хацеў зразумець, што для мяне больш важна. Дом, машына, дача ці занятак, які прыносіць задавальненне. Спыніўся на апошнім і... шчаслівы, бо займаюся тым, што люблю".

На сваім дэльтаплане ён лятае тры гады. За гэты час не раз наведаўся ў Радашкавічы, пабываў на Вілейскім вадасховішчы, на аэрадроме ў Хажове. Падымаецца, звычайна, на выдзеленую для палётаў вышыню — 300 метраў, хаця яго машыне пад сілу ўзняцца і на двух-, трохкіламетровую адлегласць ад зямлі. Лятае дэльтаплан на 76-м бензіне з хуткасцю 70 кіламетраў у гадзіну. А Анатоль тым часам выношвае яшчэ адну мару – хоча сканструяваць самалёт. Матор для яго ўжо купіў, засталося прыдбаць спадручны матэрыял ды пабудаваць ангар, дзе тэхніка будзе захоўвацца. Расказвае, што самалёт больш эканамічны, ды і канструкцыя яго працейшая і зусім не хвалюецца наконт праблемы, як будаваць. Кажа, што такой для яго проста не існуе.

Важна зазначыць, што ніякай спецыяльнай адукацыі Анатоль Казакевіч не мае. Ён – бы той самародак у канструктарскай справе. Ды ці толькі гэтым можа пахваліцца мужчына. У вёсцы расказваюць, што на сваіх станках ён можа выточваць любую дэталь да машыны альбо трактара, сканструяваць антэну для тэлевізара, адрамантаваць магнітафон альбо радыёпрыёмнік. І ўсё бясплатна, як кажуць, па суседску. Хіба што на недахоп часу паскардзіцца, дык гэта не таму, што дапамагчы не хоча. Яго і сапраўды катастрафічна не стае. Будаваць самалёты справа няпростая.

**Марына СЛІЖ.**

### Сцеражыцеся махлярак

Дзве незнаёмыя жанчыны, назваўшыся супрацоўніцамі фірмы, спрабавалі збыць вяскоўцам няякасны тавар. Пра гэта матэрыял Мікалая Ліпскага з Мядзельшчыны.

3-я старонка

### Мой родны кут



Кандыдат гістарычных навук Міхаіл Філістовіч расказвае пра родныя мясціны паблізу Вязыні, што ў Вілейскім раёне.

5-я старонка

### Не трэба санаторыя



На базе Чысцінскай дашкольнай установы яслі-сад №2 "Лясная казка" адкрыты дзве санаторныя групы.

7-я старонка

■ ПЕРАСЦЯРОГА

# На чатыры дзевяткі

## У дактароў-гігіеністаў проста не хапіла шкалы прыбора, каб дакладна ўстанавіць ступень радыеактыўнай забруджанасці грыбоў з наваколля Даманава

Сёлетні год быў асабліва багатым на грыбы. Толькі не заўсёды людзі перасцерагаюцца радыяцыі, якая сустракаецца ў лясах нашага рэгіёну. У Маладзечанскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі праводзіліся даследаванні грыбоў і ягад, сабраных не толькі на тэрыторыі Маладзечанскага раёна. Рэдакцыя «РГ» знаёміць чытачоў з вынікамі даследаванняў, дзе выяўленыя перавышэнні дапушчальных узроўняў радыяцыі. У некаторых выпадках - у дзесяткі разоў. Звярніце ўвагу, тройчы ў даследаваннях грыбоў з Даманава і Журых проста не хапіла разраднасці прыбора (паказанні 9999 БК/кг) - настолькі высокая радыяцыя ў «дарах» нашых лясоў.




Папераджальныя надпісы пры ўваходзе ў нашыя лясы не часта палохаюць гараджан і вяскоўцаў, якія прыйшлі сюды на «ціхае паляванне». Радыяцыю на вобмацак не пачуеш... Аднак наступствы такой абыякавасці могуць быць самымі цяжкімі.

Фота ByMedia.net

### Вынікі даследаванняў грыбоў і ягад, дзе выяўленыя перавышэнні дапушчальных узроўняў радыяцыі*

| Дата | Назва прадукта | Населены пункт | (БК/кг) |
|---|---|---|---|
| 14.07. | Чарніцы | Вілейскі р-н, в.Мардасы | 230 |
| 17.07. | Грыбы вар., розн. | Вілейскі р-н, в.Талуць | 389 |
| 17.07. | Грыбы свежыя | Маладзечанскі р-н, в.Сасновы Бор | 1900 |
| 21.07. | Грыбы свежыя | Маладзечанскі р-н, в.Хоўхлава | 552 |
| 21.07. | Грыбы свежыя | Маладзечанскі р-н, в.Хоўхлава | 837 |
| 23.07. | Грыбы св., куркі | Вілейскі р-н, в.Даманава | 3841 |
| 28.07. | Грыбы св., куркі | Вілейскі р-н, в.Плёсы | 550 |
| 28.07 | Грыбы св., куркі | Маладзечанскі р-н, в.Турэц-Баяры | 665 |
| 29.08 | Грыбы вар. польск. | Маладзечанскі р-н, інфекц.б-ца | 390 |
| 2.09. | Грыбы вар., куркі | Вілейскі р-н, в.Талуць | 766 |
| 2.09. | Грыбы вар., розныя | Мядзельскі р-н, в.Журыхі | 515 |
| 3.09 | Грыбы вар., розныя | Мядзельскі р-н, в.Вузла | 720 |
| 5.09. | Грыбы сушаныя | Мядзельскі р-н, в.Журыхі | 9999 |
| 8.09. | Грыбы вар., куркі | Маладзечанскі р-н, в.Чарчонава | 802 |
| 8.09. | Грыбы св., куркі | Маладзечанскі р-н, в.Вяжуці | 8974 |
| 8.09. | Грыбы вар., куркі | Мядзельскі р-н, в.Вузла | 597 |
| 9.09. | Грыбы вар., куркі | Маладзечанскі р-н, в.Чарчонава | 385 |
| 9.09. | Грыбы вар., розныя | Вілейскі р-н, в.Добравічы | 429 |
| 9.09. | Грыбы вар., куркі | Вілейскі р-н, в.Вязынь | 1140 |
| 9.09. | Грыбы вар., масл. | Вілейскі р-н, в.Вязынь | 690 |
| 9.09. | Грыбы вар., куркі | Вілейскі р-н, в.Даманава | 410 |
| 10.09. | Грыбы свежыя | Вілейскі р-н, в.Цна | 600 |
| 10.09. | Грыбы вар., куркі | Вілейскі р-н, в.Даманава | 663 |
| 10.09. | Грыбы вар., куркі | Вілейскі р-н, В.Шылавічы | 761 |
| 11.09. | Грыбы св., куркі | Вілейскі р-н, в.Даманава | 3688 |
| 12.09. | Грыбы св., куркі | Вілейскі р-н, в.Даманава | 1416 |
| 12.09. | Грыбы вар., куркі | Маладзечанскі р-н, в.Чарчонава | 421 |
| 12.09. | Грыбы вар., куркі | Валожынскі р-н | 513 |
| 15.09. | Грыбы свежыя | Вілейскі р-н в.Вязынь | 537 |
| 15.09. | Грыбы вар., куркі | Маладзечанскі р-н, в.Чарчонава | 392 |
| 15.09. | Грыбы свежыя | Вілейскі р-н, в.Слабада | 1476 |
| 15.09. | Грыбы вар., куркі | Маладзечанскі р-н, в.Васькаўцы | 906 |
| 17.09. | Грыбы сушаныя | Вілейскі р-н, в.Даманава | 9999 |
| 18.09. | Грыбы вар., куркі | Вілейскі р-н, в.Талуць | 1609 |
| 19.09. | Грыбы сушаныя | Вілейскі р-н, в.Даманава | 9999 |
| 22.09. | Грыбы св., куркі | Вілейскі р-н, в.Любань | 707 |
| 22.09. | Грыбы св., куркі | Вілейскі р-н, в.Вязынь | 518 |
| 22.09. | Грыбы вар., розныя | Мядзельскі р-н, в.Вузла | 655 |
| 22.09. | Грыбы вар., куркі | Маладзечанскі р-н, в.Чарчонава | 660 |
| 22.09. | Грыбы вар., куркі | Маладзечанскі р-н, в.Турэц-Баяры | 590 |
| 22.09 | Грыбы вар., куркі | Маладзечанскі р-н, в.Турэц-Баяры | 390 |
| 22.09. | Грыбы вар., куркі | Вілейскі р-н, в.Шылавічы | 960 |
| 23.09. | Грыбы вар., розныя | Мядзельскі р-н, в.Вузла | 430 |
| 23.09. | Грыбы вар., куркі | Маладзечанскі р-н, в.Чарчонава | 460 |
| 24.09 | Грыбы сушаныя | Вілейскі р-н, в.Вязынь | 4650 |

*Дапушчальныя ўзроўні ўтрымання цэзію-137: у свежых грыбах – 370 БК/кг, сушаных – 2500 БК/кг, у лясных ягадах – 185 БК/кг.

Даследаванні праводзіліся пастом радыяцыйнага кантролю Маладзечанскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Звесткі прадстаўленыя Віктарам Белікам, доктарам-гігіеністам па радыяцыйнай гігіене.

■ СЛУЖБА "01"

# Агонь лягчэй папярэдзіць

**МАЛАДЗЕЧНА. Пажар лягчэй папярэдзіць, чым патушыць. Аднак кожны год у рэгіёне адбываецца значная колькасць пажараў у жывёлагадоўчых памяшканнях.**

Каб засцерагчы памяшканні і жывёлу ад пажараў, трэба:

- прымяняць будаўнічыя канструкцыі і інжынернае абсталяванне неабходнай вогнеўстойлівасці і гаручасці;
- дзяліць жывёлагадоўчыя будынкі на секцыі і адсекі ў залежнасці ад плошчы, прызначэння, колькасці і віду жывёлы;
- каб у будынках былі эвакуацыйныя выхады і прымяняліся тэхнічныя устройствы, якія забяспечваюць хуткую эвакуацыю жывёлы;
- распрацаваць меры пажарнай бяспекі пры ўстройстве і эксплуатацыі цеплагенерыруючых установак і іншага тэхналагічнага абсталявання жывёлагадоўчых фермаў;
- абавязковая супрацьдымавая ахова будынка;
- мець установкі і сродкі пажаратушэння.

Усе работнікі жывёлагадоўлі павінны памятаць, што прымяненне адкрытага агню на фермах, а таксама курэнне ў памяшканнях для ўтрымання скаціны катэгарычна забараняюцца.

Спальваць смецце, разводзіць кастры дазволена толькі ў бязветранае надвор'е на адлегласці не менш за 100 м ад жывёлагадоўчых і іншых пабудоў. Попел пасля трэба добра заліваць вадой ці засыпаць зямлёй.

Захоўваць кармы на фермах павінны на спецыяльна адведзеных плошчах з захоўваннем супрацьпажарных адрываў ад будынкаў. На гарышчах складзіраваць грубыя кармы дапускаецца толькі пры наяўнасці незгараемага перакрыцця. Захоўваць сена, салому, іншы фураж у жывёлагадоўчых памяшканнях дазваляецца ў спецыяльным адсеку і ў колькасці, якая не перавышае дзённай нормы выдачы.

Каб пазбегнуць пажараў ад кароткіх замыканняў, трэба сачыць за станам ізаляцыі электрасеткі, рухавікоў і агрэгатаў, надзейна іх ахоўваць ад вільгаці і пашкоджанняў.

Забараняецца прымяняць ў засцерагальніках нестандартныя ўстаўкі. Нельга эксплуатаваць у стойлавых памяшканнях электралямпачкі без ахоўнай арматуры. У нерабочы час сілавое і асвятляльнае абсталяванне, за выключэннем дзяжурнага асвятлення, павінна быць абясточана. У жывёлагадоўчых памяшканнях катэгарычна забараняецца ўстанаўліваць электраводанагравальнікі і іншыя награвальныя прыборы.

**Віктар ШАБЛЫКА,**
**інспектар дзяржаўнага пажарнага нагляду.**

■ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

## Заплаці... і спі спакойна

**АСТРАВЕЦ. Больш за 20 прадпрымальнікаў, якія арандуюць плошчы ў Астравецкім унітарным камбінаце бытавога абслугоўвання (УКБА), атрымалі зварот гэтай арганізацыі аб добраахвотным ахвяраванні грошай.**

Накіраваць такія лісты УКБА прымусіла рашэнне мясцовага райвыканкама "Аб зацвярджэнні раённай праграмы па добраўпарадкаванні гарадскога пасёлка Астравец і населеных пунктаў раёна", а таксама рашэнне агульнага сходу гэтай арганізацыі. На апошнім, прынамсі, было зацверджана, што кожны з прадпрымальнікаў павінен будзе пералічыць грошы на добраўпарадкаванне тэрыторыі каля Дома быту. Падобнае ўжо праводзілася: рамантавалі туалеты і дах ў Доме быту.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 9.10 руб. | 16.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2115,00 | 2119,00 |
| Еўра | 2499,61 | 2482,73 |
| Злоты | 548,24 | 546,98 |
| Літ | 723,82 | 719,16 |
| Расійскі рубель | 69,62 | 70,34 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2100/2130 | 2107/2126 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 1.10 | 8.10 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 11300 | 12630 |
| Сасіскі, 1 кг | 4490 | 4130 |
| Селядзец, 1 кг | 2750 | 2750 |
| Рыс, 0,9 кг | 800 | 800 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1250 | 1190 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 500 | 490 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 750 | 900 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 800 | 850 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 850 | 700 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 200 |
| Морква, 1 кг | 350 | 500 |
| Лімоны, 1 кг | 2250 | 2300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1950 | 1950 |
| Памідоры, 1 кг | 750 | 1190 |
| Кавуны, 1 кг | 400 | 390 |
| Яблыкі, 1 кг | 950 | 1100 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 600 |
| Смятана, 1 л | 2300 | 2200 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 1700 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1700 | 1700 |
| Бульба, 1 вядро | 2000 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |
| Журавіны, 5-літр. вядро | 11000 | 11000 |

## Адгукніцеся

12 кастрычніка каля 20 гадзін у г. Маладзечне па Вялікім Гасціцы, насупраць завода "Электрамодуль", адбылося дарожна-транспартнае здарэнне. Неўстаноўлены аўтамабіль наехаў на жанчыну. Сведкаў і вадзіцеля, што даставіў пацярпелую ў бальніцу, просім патэлефанаваць у ДАІ па нумарах 5-44-44, 6-16-16.

■ ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС РЭГІЁНУ

# Мой родны кут - Вязыншчына

**Гэта Вязыншчына, што ў Вілейскім раёне. З тых краёў, як я потым даведаўся, усе мае аднафамільцы ў Маладзечне і Мінску (толькі ў сталічным камп'ютэрным тэлефонным даведніку Філістовічаў, разам са мной, значыцца 36, і ніхто з іх, акрамя сына, не даводзіцца раднёй).**

У Вязыні мяне хрысцілі ў страшэнныя маразы 1940 года, там у 1944 годзе пахавана мая бабуля, а яшчэ раней ледзь без пары не скончылася і маё кароткае жыццё, каб не выратаваў ад цяжкага запалення лёгкіх нямецкі ваенны доктар. Відаць, зжаліўся ён над горам адзінокай маладой жанчыны (бацька быў на фронце), у якой было яшчэ адно дзіця – мой старэйшы брат. Праўда, за такую ласку маці прыйшлося прэзентаваць лекару добра ўкормленага апошняга парсючка. Ды не ведаў яшчэ доктар, што дапамагае будучай сувязной партызанскага атрада. У Вязынь, якая здавалася нам вялікім мястэчкам, хадзіў я з аднагодкамі 7 кіламетраў раз у год у царкву на ўсяночную пад Вялікдзень, хаця ніякіх асаблівых уражанняў у памяці не засталося, акрамя адчування беспрытульнасці сярод шматлюддзя і жадання спаць. Потым драўляную царкву пераабсталявалі у Дом культуры, а паважаны ў насельніцтва "бацюшка Смірноў" з'ехаў у ЗША.

**Мае Рэдзькавічы, дзе нарадзіўся, былі значна меншыя, але 60 хат і брукаваная вуліца ў кіламетр даўжынёй – таксама нешта значылі.**

Гістарычныя крыніцы не сведчаць аб якісьці значных падзеях, звязаных з Вязынню. Вядома, што за "польскім часам" там быў маёнтак нейкага пана з бровaрам, які дастаўся потым саўгасу "Вязынь". Быў вадзяны млын, які абслугоўваў усіх навакольных сейбітаў.

Мае Рэдзькавічы, дзе нарадзіўся, былі значна меншыя, але 60 хат і брукаваная вуліца ў кіламетр даўжынёй – таксама нешта значылі.

У 2-х кіламетрах ад вёскі працякала тады паўнаводная і вельмі чыстая Вілія, да якой у летнюю спёку праз суседнія Матчыцы (адтуль родам мая маці, і я нямала часу ў дзяцінстве і пазней праводзіў там у родзічаў) мы босыя хадзілі купацца і палавіць вудай келбаў. Такіх паласатых рыбак велічынёй з хамсу даўно ўжо не бачыў у Віліі – усё больш траплялюцца нейкія калючкі. У вёсцы Касуцкае (затоплена цяпер вадасховішчам) рака крута падмывала высокі берагі, паточаны гнёздамі ластавак, і штогод вясной зносіла што-небудзь з сядзібы Вішнеўскіх, пакуль не засталася пад пагрозай сама хата і гаспадары не перасяліліся далей ад ракі. Тут у глыбокай завадзі вязалі ў плыты бярвенні, якія сплаўлялі далей да Цільні. Назаўсёды засталося ў памяці гора мясцовай настаўніцы арыфметыкі Д.І.Прудніковай, муж якой утапіўся у Віліі. Цяпер вада значна прыблізілася, дайшла амаль да матчыцкіх могілкаў, дзе пахаваны мае многія родзічы. Фарватэр ракі застаўся дзесьці пасярэдзіне вадасховішча, а на беразе нейкія камерсанты каторы год спрабуюць стварыць зону адпачынку, толькі не радуе вока зялёная і з нейкай непрыемнай пенай вада.

Па словах старажылаў, Рэдзькавічам і навакольным вёскам "пашанцавала" ў вайну з немцамі: не спалілі хаты, падкормлівалі наваt дзяцей (сам хадзіў з братам да іх палявой кухні з самаробным кацялком) тым, што заставалася на дне ў армейскіх катлах пасля таго, як наеліся салдаты. Тым не менш, пасляваенныя гады былі бедныя. У хлеб клалі мякіну, дзеці па лугах збіралі траву "вобаратнік" з шырокімі лісцямі, сушылі, малолі ў муку і пяклі з яе праснакі. Як толькі сходзіў вясной з былых бульбяных палеткаў снег, дзеці навыперадкі шукалі "гнілушкі" – перамерзлыя ў зямлі клубні, з якіх пяклі бліны і аладкі. Таму і працаваць калектывізацыі ў 1949 годзе было няма каму, як і раскулачваць з высылкай на Салаўкі. Дасціпная дзятва, вядома ж, прысутнічала пры ўсіх гэтых падзеях. Памятаю, як абмяркоўвалася назва калгаса. Асабіста мне чамусьці хацелася, каб далі імя Пушкіна (была такая прапанова), але перамагла пашана да "бацькі ўсіх народаў", таму калгас назвалі імя 70-годдзя Сталіна. Мая маці не ўступіла ў калгас, бо жыла чаканнем, што вось-вось дзецьмі хутка забяра да сябе бацька, які пасля вяртання з вайны прапаўладкаваўся ў Маладзечне. У адказ на гэта мясцовыя ўлады абрэзалі па ганак наш прысядзібны ўчастак, канфіскавалі добрыя сельскагаспадарчыя пабудовы і інвентар. Змяніліся адносіны маіх аднагодкаў і да мяне, як сына "адзіналічніцы". Яны цешыліся з'яўленню калгаснага радыёвузла, гулялі на калгасным мехдвары, куды доступ мне быў забаронены. Так упершыню давялося зведаць незайздроснае пачуццё "чужынца" сярод сваіх, якое, на шчасце, хутка выветрылася пасля пераезду ў Маладзечна. Дакладней, гэта быў не пераезд, а пераход пехатой разам з маці, ды яшчэ паганяючы карову (наганькі праз Располле і Самалі да Маладзечна больш за 20 км). Аўтобус з Маладзечна да Рэдзькавічаў пайшоў толькі ў 1960-я гады, падчас майго новага вяртання на Вязыншчыну.

Здарылася гэта 40 гадоў таму назад, калі пасля заканчэння ў 1963 годзе Белдзяржуніверсітэта я прыбыў па накіраванні ў Вілейскае райана і адразу быў назначаны дырэктарам Селішчанскай васьмігадовай школы на тэрыторыі Вязынскага сельсавета. Гэтай школе я сумленна аддаў 5 гадоў жыцця.

**На вёсцы наогул, тым больш настаўніку, прынята здароўкацца з кожным.**

Чутка, што "таццянін Міша" (у вёсцы была мода клікаць дзяцей па маці ці бацьку: "паўлюкова Нінка", "стэпчын Лёня" і г.д.) стаў дырэктарам, хутка разнеслася па навакольных вёсках. Да мяне падыходзілі незнаёмыя людзі, распытвалі пра жыццё і здароўе бацькоў, а я па гарадской звычцы нават не вітаўся з людзьмі, якіх раней не сустракаў. Потым даведаўся, што на вёсцы наогул, тым больш настаўніку, прынята здароўкацца з кожным.

З-за беднаты мала хто з рэдзькаўскіх "выбіваўся ў людзі". Хлопцы вербаваліся на Магнітку, у Петразаводск, Архангельск на лесараспрацоўкі, на цаліну; дзяўчаты наймаліся батрачкамі ў Латвію. (У Вентспілсе і цяпер ёсць даволі маіх землякоў). Прыемным выключэннем стаў Іван Станкевіч. З бяднейшай сям'і — бацька не вярнуўся з вайны, — ён пасля Рэдзькавіцкай сямігодкі тры гады штодзень па 7 км туды і назад адхадзіў у Вязынь, каб закончыць сярэднюю школу. З атэстатам сталасці, амаль як Ламаносаў, пешшу ў гумовых галёшах дайшоў у Мінск, паступіў на хімічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, стаў кандыдатам хімічных навук і выкладчыкам у нашай галоўнай навучальнай установе. Вышэйшую адукацыю атрымалі браты Іван і Уладзімір Нічыпаровічы, першы з якіх быў загадчыкам гарана ў Маладзечне, а другі – намеснікам дырэктара СШ №8. Атрымала яе мая стрыечная сястра Ніна Філістовіч (па мужу Мікульчык), якая доўгі час загадвала дзіцячай музычнай школай пры Маладзечанскім музычнымі лішчы. Скончыў Белдзяржуніверсітэт і Мінскую вышэйшую партыйную школу мой брат Іван — потым вядомы кіруючы работнік ў Ашмянах (яго сын працуе загадчыкам аддзялення ў тамашняй раённай бальніцы). Выбіўся на інжынера і стаў начальнікам цэха на маладзечанскім заводзе "Спадарожнік" М.І.Ракоўскі. Бадай, і ўвесь пералік.



Вязынскі касцёл, пабудаваны ў другой палове 19-га стагоддзя з вапнавых блокаў, - адзін з будынкаў сядзібнага комплексу. Вязынь належала калісьці Радзівілам, а з 1820 года – панам Багдашэўскім. Сядзіба ўключала ў сябе, акрамя касцёла, жылы дом, бровар (і сёння ў Вязыні ёсць спіртзавод), стайню, гаспадарчы будынак, парк. Фота Сяргея Мацюшова.

**Хто мог падумаць, што будзе пракладзеная асфальтавая дарога, па якой за 20 хвілін можна даехаць у Вілейку, а за 40 хвілін будзеш у калісьці далёкім Маладзечне**

Многае змянілася ў Рэдзькавічах за апошнія дзесяцігоддзі. Дамы перасяленцаў з хутароў злучылі вёску ў адзінае паселішча з Матчыцамі. Хто са старэйшых мог падумаць, што будзе пракладзеная асфальтавая дарога, па якой за 20 хвілін можна даехаць у Вілейку (раней бабы з катомкамі ішлі пешшу 12 км у райцэнтр на базар 2 гадзіны), а за 40 хвілін будзеш у калісьці далёкім Маладзечне.

Прыйшлі і туды даўно ўжо радыё і электрычнасць, газ, тэлевізары і халадзільнікі. Паралельна старой брукаванай вуліцы, якую дзецьмі па прывітаму бацькам пры Польшчы абавязку кожную суботу мы старанна насупраць сваёй сядзібы палолі ад трыпутніку і падмяталі, а пешаходныя "рышткі" пасыпалі наваt жоўценькім пясочкам, з'явілася новая, з сучаснымі дамамі і гаражамі. Старанна, аж залішне, папрацавалі там меліяратары, таму ад былых балотаў застаўся толькі ўспамін. А было ж, што з Палама пад Располлем, дзе быў бацькоўскі сенакос, скошаную траву амаль па калена ў вадзе спачатку выносілі на сухое месца, а потым копы сена на доўгіх жэрдках неслі да наблізкай дарогі. Ды і назваць дарогай тыя глыбокія каляіны з пратоптанымі пасярод конскімі капытамі сцежкамі можна толькі ўмоўна. Да болі ў пальцах сціскалі мы, дзеці, парубень, каб утрымацца на вярху высокага з сенам воза, які, быццам лодку ў шторм, кідала з аднаго на другі бок.

З асушэннем балота не стала купін з журавінамі і кустоў, усыпаных вялікімі, з добрую вінаградзіну, блакітнымі ягадамі, па-мясцоваму "балабонамі", альбо дурніцамі. Ад іх аднойчы ў лесе сапраўды стала дрэнна майму сябруку, і мы, разгубленыя, акрамя плачу, не ведалі, якой даць яму рады. А колькі брусніц было (іх нарыхтоўваць на зіму ездзілі вазамі, як і за грыбамі, куркамі і масляками), проста ўсыпаны пералескі абапал сцежкі да цёткі Паўліны на хутар Располле, з якім таксама многае звязана ў маім дзяцінстве. Адтуль я штодзень за 3 км хадзіў некалькі месяцаў у Рэдзькавічы заканчваць навучальны год у школе пасля таго, як сям'я стала жыць ужо ў Маладзечне. Будынак той школы стаіць і сёння сярод сасняку, толькі сіратліва, бо няма каго вучыць. Яшчэ ў 1960-я гады, калі я працаваў у Селішчах, у Рэдзькавіцкай васьмігодцы, дзе шмат гадоў працаваў дырэктарам мой сваяк у нейкім калене І.А.Філістовіч, было больш за 200 вучняў. А цяпер у школе, куды збіраліся ў класы дзеці і з суседніх Матчыцаў, Кобузей, Азярца, Паняцічаў, Располля, не стала каго вучыць. Сумна, што вёскі напаўняюцца дзіцячымі галасамі толькі ўлетку, калі звозяць дзяцей да бабуляў на канікулы бацькі, якія калісьці маладымі пакінулі родныя мясціны ў пошуках працы і лепшай долі, ды так і аселі ў Вілейцы, Маладзечне, а некаторыя і ў Мінску.

Сумна, што наведваць мілы сэрцу кут усё часцей прыходзіцца толькі з нагоды пахавання кагосьці з нямногіх родзічаў. На апошнім вяселлі сына стрыечнай сястры ў Рэдзькавічах быў аж у 1981 годзе...

Якая твая перспектыва, родная Вязыншчына?!

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**



Драўляная царква ў Вязыні пабудаваная ў пачатку мінулага стагоддзя. У савецкія часы будынак бажніцы займаў клуб. Фота Сяргея Мацюшова.



Вязынь. Двор магазіна. Фота Сяргея Мацюшова.

■ ЮБІЛЕІ

# 25 год мастацкай школе

**МАЛАДЗЕЧНА. 17 кастрычніка дзіцячая мастацкая школа адзначыць свой 25-гадовы юбілей.**

Тут усё, як ў сапраўднай школе. Заняткі ў дзве змены, урокі, перапынкі, заданні на дом. Толькі прадметы ў раскладзе на тыдзень крышачку незвычайныя. Замест абавязковых рускай літаратуры і матэматыкі значацца жывапіс, малюнак, кампазіцыя, лепка. Таленавітым дзецям, што сабраліся пад дахам Маладзечанскай мастацкай школы, яны па душы. Можа, таму і пайшла палова яе выпускнікоў у прафесіяналы. Ёсць сярод іх дызайнеры, архітэктары, настаўнікі выяўленчага мастацтва, што працуюць не толькі ў навучальных установах Маладзечна, але і Вілейкі, Валожына, Смаргоні. Па праву ганарыцца школа мастаком-манументалістам Ігарам Лазарам, выкладчыкам мастацкага факультэта Гродзенскага універсітэта Міхаілам Буевым, якія вучыліся трымаць у руках пэндзаль менавіта ў сценах гэтай школы.

Быў час, калі конкурс сюды складаў 4 чалавекі на месца. Выкладчыкі адбіралі лепшых з лепшых і дзень за днём, тыдзень за тыднем вялі іх у краіну мастацтва, стараючыся выпрацаваць свой погляд на жыццё, мінушчыну, прыгажосць. Старанні дарма не прапалі. Некалькі гадоў запар Маладзечанская мастацкая школа значыцца ў ліку навучальных устаноў рэспублікі з высокім паказчыкам паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы (ВНУ).

Дарэчы, для тых, хто збіраецца пры паступленні ў ВНУ ці сярэднія спецыяльныя установы здаваць мастакоўскі экзамен, працуе прафклас. Здольнасці пачаткоўцаў развіваюць на падрыхтоўчым аддзяленні, дзе і выяўляюць пазначаных талентам дзяцей. 20 майстроў народнай творчасці, што працуюць у горадзе, — таксама выпускнікі гэтай школы. А авалодвалі яны сакрэтамі саломапляцення, выцінанкай, вырабамі з льну на дэкаратыўна - прыкладным аддзяленні.

Школа, яе выкладчыкі, вучні — традыцыйныя ўдзельнікі шматлікіх конкурсаў, мерапрыемстваў. З задавальненнем займаюцца выставачнай дзейнасцю. Работы навучэнцаў школы выстаўляліся ў дзвюх залах абласнога краязнаўчага музея, а таксама ў выставачных залах Смаргоні, Вілейкі.



У музеі Маладзечанскай мастацкай школы, дзе сабраны лепшыя работы вучняў, падкалектыў збіраецца часта. Тут абмяркоўваюцца планы на будучае і нараджаюцца новыя ідэі. На здымку: выкладчыкі — Сяргей Жук, Роза Панфілава, Таццяна Бараноўская, дырэктар Васіль Таркан і Васіль Лазоўскі.

Фота Марыны СЛІЖ.

"Перад юбілейны год, — расказвае дырэктар школы **Васіль Таркан**, — быў багатым для нас яшчэ і на перамогі. Ганаровы дыплом 30-й Міжнароднай выставы дзіцячай творчасці "Лідзіцэ-2002" атрымала выпускніца школы **Мазуркевіч Таццяна**. Урачыстае ўручэнне дыплома адбылося ў лютым 2003 года ў пасольстве Чэшскай Рэспублікі. А неўзабаве зноў радасная вестка прыйшла на адрас школы. У Міжнародным конкурсе малюнка і жывапісу "Я малюю свет", які праводзіцца грамадскай арганізацыяй "Беларускі зялёны крыж" у межах Міжнароднага фестывалю "Дзеці Зямлі. Беларусь-2003", адзінаццаць работ нашых навучэнцаў адзначаны дыпломамі. Выкладчыкі рады за **Юлю Раманеку, Вольгу Семічкоўскую, Любу Пашкевіч, Ксенію Пятрову, Марыю Ганчарык, Аляксандру Капылову, Кацярыну Квяткоўскую, Насцю Барбосаву, Марыю Каток, Таццяну Тамашэвіч, Насцю Сіняўскую**. А вучаніцы 1-га класа **Вольга Яжанка і Дар'я Ляцяга** сталі пераможцамі рэспубліканскага дзіцячага гістарычнага літаратурна-мастацкага конкурсу "Беларусь. Гістарычныя вандроўкі".

Надоўга застанецца ў дзіцячай памяці і майскі пленэр, які яны правялі разам з выкладчыкамі **Аленай Кучко, Розай Панфілавай, Сяргеем Жуком**, а таксама абласны конкурс-пленэр "Прыгажосць выратуе свет". Прысвячаўся ён 180-годдзю кампазітара Станіслава Манюшкі і праходзіў на базе санаторыя "Волма", што непадалёк ад Чэрвеня. Юным мастакам падабалася быць у асяроддзі прыроды, адчуваць цяпло яе фарбаў і ў той жа час збліжацца з навакольным светам.

Пра поспехі сваіх вучняў расказваюць выкладчыкі з задавальненнем. Прытым не толькі сённяшніх, але і былых. Рады, напрыклад, за **Аляксандра Цітова**, які цяпер вучыцца ў Акадэміі мастацтваў, **Кацярыну Араліну**, што працягвае вучобу ва універсітэце культуры, навучэнку аддзялення народнага мастацтва уні-версітэта імя М.Танка **Алену Селядзец**. Усе яны так і застануцца іх дзецьмі, за поспехамі якіх былыя настаўнікі будуць сачыць заўсёды.

Многіх сваіх выпускнікоў спадзяюцца ўбачыць на юбілеі школы. Як-ніяк, 25 гадоў бывае не кожны дзень. А яны ў сваю чаргу будуць рады сустрэцца як з дырэктарам **Васілём Аляксеевічам Тарканам**, так і з выкладчыкамі **Васілём Міхайлавічам Лазоўскім, Розай Аляксандраўнай Панфілавай, Сяргеем Аляксандравічам Жукам** і многімі іншымі педагогамі, што адкрывалі ім дарогу ў мастацтва.

**Марына СЛІЖ.**

■ ТЭАТР

## Хутка фестываль

**З 30 кастрычніка па 4 лістапада ў Мінску на пляцоўцы тэатра беларускай драматургіі пройдзе IV фестываль монаспектакляў. Па запрашэнні Беларускага цэнтра міжнароднага інстытута тэатра ў ім прыме ўдзел і Мінскі абласны драматычны тэатр г.Маладзечна, які прадставіць 2 спектаклі: "Білет у рай" Ю.Эдліса і "Сіні аўтамабіль" А.Стэльмаха.**

Фантазія "Білет у рай" створаная ў маі 2001 года рэжысёрам **Валерыем Мурычыным** паводле п'есы Ю.Эдліса "Дзьмухавец". Галоўную ролю ў спектаклі выконвае артыст **Яўген Іўковіч**.

Трагікамедыя-рэтра "Сіні аўтамабіль" з'явілася ў рэпертуары тэатра ў красавіку 2003 года. Тут узнімаецца адвечнае пытанне "Што такое шчасце?" Галоўны герой – пісьменнік А. знаходзіцца ў стане творчага крызісу. Ён не можа знайсці тэму, яго ўсё не задавальняе. Гісторыі, якія мяркуюцца ўвайсці ў будучую кнігу, ствараюцца на вачах у гледача.

Ролю пісьменніка А. выконвае акцёр **Алег Чэчанеў**, які з'яўляецца і пастаноўшчыкам, і сцэнічным рэдактарам.

Будзем чакаць гэтай падзеі і спадзявацца на поспех абодвух спектакляў.

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

## Гастролі, гастролі...

**22 кастрычніка Мінскі абласны драматычны тэатр з Маладзечна зноў паедзе ў Мінск. Ужо даўно сталі традыцыяй гастролі маладзечанцаў па сталічных пляцоўках. Вось і цяпер на сцэне Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў будуць паказаны два спектаклі: "Папялушка" Яўгена Шварца і "Матухна Кураж і яе дзеці" Бертольда Брэхта.**

"Папялушка" – гэта чароўная і незвычайная гісторыя пра добрую і працавітую дзяўчынку Папялушку.

Яркія касцюмы, прыгожыя дэкарацыі і слайдавыя ілюстрацыі надаюць спектаклю чароўнасць (мастак **Сяргей Антонаў**). Танцы, пастаўленыя **Святланай Навуменкай**, ствараюць атмасферу балю.

Рэжысёр **Юрый Вута** вызначыў жанр як "казка ў 2-х дзеях аб самых першых і светлых пачуццях".

**Упершыню сталічныя гледачы ўбачаць гандлёвы мюзікл маладзечанцаў "Матухна Кураж і яе дзеці" Бертольда Брэхта.**

У спектаклі раскрываецца тэма вайны. Смерць, бяда, слёзы, на якіх робіцца грошы. Для галоўнай гераіні вайна – гэта ўсяго толькі бізнес. У пагоні за грашыма матухна Кураж страчвае дзяцей...

Спектакль гучыць вельмі актуальна і сур'ёзна. Перакладчык і рэжысёр **Андрыян Барткевіч** разам з кансультантамі **Васілём Жуковічам** і **Рыгорам Баравіком**, кампазітарам **Андрэем Палупанавым**, балетмайстрам **Віктарам Барановічам** выкарыстоўваюць сучасныя словы, рытмы, матывы, накірункі і захоўваюць стыль, атмасферу, ідэю Брэхта, яго каларыт.

Галоўную ролю бліскуча выконвае майстар сцэны **Алена Рахмангулава**. Усе акцёры спяваюць "ужывую".

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

■ ДАТЫ

# Ёсць музыка над намі...

**МАЛАДЗЕЧНА. Музычна-эстэтычным і культурным цэнтрам горада з'яўляецца музычнае вучылішча імя Агінскага. Сёлета святкуецца яго 45-годдзе.**

Галоўная задача ўстановы: рыхтаваць выкладчыкаў для дзіцячых музычных школ і школ мастацтваў, выхоўваць маладых музыкантаў самастойнымі творчымі асобамі, якія валодаюць патрэбнымі ведамі і здольнасцямі. У рэгіёне няма філармоніі, таму задача вучылішча і ў тым, каб даносіць да яго жыхароў музычныя творы класікаў і сучаснікаў, весці актыўнае канцэртнае жыццё, папулярызаваць сусветнае і нацыянальнае мастацтва, выхоўваць густ у маладога пакалення. У вучылішчы працуюць вучэбныя калектывы – ансамблі, хоры, аркестры.

Мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам сімфанічнага аркестра музычнага вучылішча з 1979 года з'яўляецца заслужаны дзеяч культуры Беларусі дырэктар **Рыгор Сарока**. Дарэчы, былы выпускнік вучылішча. У 2001 годзе аркестр атрымаў Гран-пры рэгіянальнага фестывалю "Напеў зямлі маёй". Гэты калектыў дэманстраваў свае майстэрства ў Вялікай зале Дзяржаўнай філармоніі, у розных гарадах краіны, таксама у Польшчы, Германіі, Францыі.

Аркестр рускіх народных інструментаў пад кіраўніцтвам **Тамары Бяльковай** з'яўляецца лаўрэатам шматлікіх рэспубліканскіх конкурсаў і міжнародных фестываляў, у 2002 годзе атрымаў Гран-пры рэспубліканскага конкурсу аркестравых і харавых калектываў.

Актыўна даюць канцэрты аркестр духавых інструментаў пад кіраўніцтвам **Марцэліна Дабравольскага** і аркестр беларускіх народных інструментаў пад кіраўніцтвам **Аляксандра Кавалёва**.

**Музычнае вучылішча запрашае былых выпускнікоў, гасцей і жыхароў горада на святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя 45-годдзю вучылішча.**

**24 кастрычніка з 14.00 да 16.00 будзе праходзіць рэгістрацыя былых выпускнікоў у вучылішчы, у 17.00 – святочны канцэрт у Палацы культуры. 25 кастрычніка з 11.00 пройдзе сустрэча выпускнікоў з выкладчыкамі вучылішча, а ў 12.00 — канцэрт лепшых навучэнцаў музычнага вучылішча (у Вялікай зале вучылішча).**

**Вольга БРАНАВІЦКАЯ.**

■ ПЕРАМОГА

## Маладзечанцы — лепшыя

**На абласным аглядзе мастацкай самадзейнасці, які прайшоў у мінулую пятніцу ў Старых Дарогах, маладзечанцы трапілі ў пяцёрку мацнейшых. "Пропуск" на сталічную сцэну заваявалі на заняльным аглядзе мастацкай самадзейнасці, дзе "перапелі" сваіх калег з Вілейкі, Валожына і Мядзела.**

За ўдзел у абласным конкурсе нашы артысты атрымалі спецыяльны дыплом, а Маладзечанскі раённы аддзел культуры ўручыў метадычнаму цэнтру за ўдалае кіраўніцтва культустановамі раёна прыз у выглядзе камп'ютэра.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ДЗЕЦІ

# Не трэба санаторыя

**МАЛАДЗЕЧНА. Чысцінская дашкольная ўстанова яслі-сад №2 "Лясная казка" адчынілася 27 снежня 2002 года. З першага верасня гэтага года на базе сада створаны дзве санаторныя групы для дзяцей, якія часта і доўга хварэюць на астму, пнеўманію і іншыя бронха-лёгачныя хваробы.**

У санаторныя групы трапляюць дзеці гэтага ж сада па рэкамендацыі санаторна-аздараўленчай камісіі, у якую ўваходзяць раённы педыятр Міхаіл Радаюкевіч, інспектар раённага аддзела адукацыі, участковы педыятр **Надзея Гусініна**, загадчыца сада **Наталля Дзергачова**. Доктар Надзея Гусініна назначае лячэнне на год. Калі дзіця не хварэла гэты час, то пераводзіцца ў звычайную групу.

У санаторнай групе ў залежнасці ад хваробы можна прайсці курс інгаляцый, азонавых ваннаў, лячэбнай фізкультуры. Калі ў памяшканнях цёпла, то магчымы электрафарэз, масаж, салярый. Акрамя назначаных працэдур, дзеці атрымліваюць пяціразовае харчаванне. У рацыён абавязкова ўваходзяць ёгурты, сокі, глазураваныя сыркі, садавіна. Знаходжанне дзіцяці ў такой групе абыходзіцца бацькам толькі на 9 тысяч рублёў даражэй, чым у звычайнай, за жнівень плацілі 25 тысяч.

У дзіцячым садзе №2 ёсць басейн, працуе студыя выяўленчага мастацтва. Заняткі па маляванні Алена Дубаневіч праводзіць з усімі дзецьмі сярэдняга і старэйшага ўзросту, а дадатковыя заняткі ў студыі – з тымі выхаванцамі, якія маюць здольнасці. Вынік, па словах загадчыцы сада Наталлі Дзергачовай, відаць ужо праз паўгода.

Некаторыя дзеці займаюцца ў тэатральным гуртку: развучваюць казкі, пасля ладзяць выступленні для бацькоў і іншых выхаванцаў.

Адкрыццё санаторных груп Наталля Дзергачова не лічыць чымсьці надзвычайным: сад адразу быў запланаваны як санаторны.



**Вадзім Шушко наведвае санаторную групу дзіцячага сада №2 у Чысці. Пасля ціхай гадзіны дзеці ходзяць па "дарожцы здароўя", на якой прымацаваныя гузікі рознага дыяметру, алоўкі і фламастары.**

Фота Святланы Цішко.

**Святлана ЦІШКО.**

■ СПРАВЫ ШКОЛЬНЫЯ

## Навукоўцы растуць у Пагосце

**ВІЛЕЙКА. Пехатою ў райцэнтр пагосцкія школьнікі не ходзяць. І ад часу не адстаюць. Камп'ютэры ў школе хоць не самыя сучасныя, але асвоілі іх усе.**

Ды параўнанне з "архангельскім мужыком" міжволі ўсплывае ў памяці, калі даведваешся, што ў невялікай базавай школе, за пяцьдзесят кіламетраў ад Вілейкі, ёсць сваё навуковае таварыства. Не стваранае дзеля моды, а сапраўднае, вядомае нават у сталіцы і дыпламаванае. Апошні дыплом – за перамогу ў абласным туры маніторынгу "Малым рэкам – вялікі клопат".

А ёсць яшчэ за конкурсы "Дзень Зямлі", экалагічныя і навуковыя. У школе тут здзіўляешся на кожным кроку. У які бок ні паглядзіш – усюды пакаёвыя расліны і кветкі. Яны тут адчуваюць сябе гаспадарамі. Дзіўна, але ніхто іх не крыўдзіць, не перакарочвае гаршкі з кветкамі.

— Усяляк было, — кажа дырэктар школы **Ганна Ляшковіч**, біёлаг па адукацыі. Менавіта яна была ініцыятарам стварэння ў школе аранжарэі, – напачатку то лісточкі ў вазонаў падрэзаюць, то гаршчок з кветкамі перавернуць, то клумбу вытапчуць. І ўгаворвалі, і тлумачылі, і прытрымлівалі найбольш гарэзных хлапчукоў. Бо сярод сямісот пакаёвых раслін, якія маюць "прапіску" ў школе, нямала рэдкіх, прывезеных з Батанічнага сада або прысланых здалёк.

У школе добры агарод. А гародніны на ім сёлета вырасцілі столькі, што хапіла і для школьнай сталоўкі, каб абеды дзешавейшыя былі, і прадалі нават. А што рабіць, вяскоўцы – людзі небагатыя, цяжка сабраць з бацькоў па некалькі тысяч, а школу рамантаваць трэба. На рамонт пагосцкія дзеці таксама зарабляюць самі – гародніну прадалі, лекавыя травы збіралі.

Ёсць у школе і свае лясніцтва, таксама шматлікае. Юныя леснікі летам у школьнай майстэрні майстравалі шпакоўні для птушак. Потым лес ад хмызняку, галля і смецця ачышчалі. Працы ўсім хапала. Затое ў школу кожны прынёс рэферат пра тое, што ўбачыў летам на полі, на лузе, у лесе.

Яшчэ пагосцкія настаўнікі ганарацца тым, што ні адзін з іх вучняў не трапіў на заметку міліцыі. І вось ужо дзесятак гадоў, колькі існуе тут школа, дзяцей на ўлік у міліцыі не ставяць. Хоць не сакрэт, што і сем'і ўсякія бываюць, і ў школьнікаў праблем шмат. Ганна Ляшковіч лічыць, што гэта таму, што іх выхаванцы карыснай справай занятыя, няма калі ім па вясковай вуліцы гойсаць ды заняткі сабе выдумваць. Яны навукай займаюцца.

**Мікалай ВАЛЫНЕЦ.**

■ МОЛАДЗЬ СУПРАЦЬ СНІДУ

## Роўны навучае роўнага

**МАЛАДЗЕЧНА. У нацыянальным штабе грамадскай арганізацыі "Хрысціянскі саюз дарослых і маладых" (ХСДМ) вырашылі распачаць праект "Моладзь супраць ВІЧ/СНІД", які дзейнічае пры падтрымцы прадстаўніцтва ЮНІСЭФ (UNICEF) у Беларусі.**

У Маладзечне таксама ёсць аддзяленне гэтай арганізацыі. У сярэдзіне верасня **Марына Корж** і **Мікалай Лукша** з Мінска правялі двухдзённы трэнінг па праграме "Роўны навучае роўнага". У ім удзельнічалі 17 вучняў 9–10 класаў з дзесяці школ горада. У першы дзень мінскія трэнеры ў форме дыскусій і гульняў нагадалі аб небяспецы СНІДу, аб шляхах перадачы хваробы, пазнаёмілі школьнікаў са статыстыкай (колькасць хворых у Беларусі, колькасць памерлых ад СНІДу), кожнаму раздалі сцэнарыі такога трэнінга. На другі дзень падлеткі спрабавалі сябе ў ролі вядучых: праводзілі невялікую частку трэнінга.

25 верасня мінчане прыехалі зноў, каб прыняць атэстацыйны экзамен. Яго вытрымалі і атрымалі сертыфікаты аб праходжанні курса мультыплікатара (вядучага трэнінга) 14 чалавек. Гэтыя школьнікі да канца навучальнага года правядуць 50 трэнінгаў для аднагодкаў. Каардынатары праекта ў Маладзечне **Валерый Трацяк** і яго дачка Валянціна лічаць, што інфармацыя, атрыманая ад равеснікаў ды яшчэ ў форме дыскусій, а не лекцый, лепш засвойваецца падлеткамі, бо няма псіхалагічнага бар'еру.

Першы трэнінг у клубе "Ладдзя" ўжо правялі **Касця Прадуха** (беларуская гімназія) і **Анжаліка Бурачкова** (СШ №8).

**Святлана ЦІШКО.**




**Д а в е д к а.** Дзіцячы фонд ЮНІСЭФ створаны ў 1946 годзе як Надзвычайны орган дапамогі дзецям у спустошаных вайной краінах Еўропы. Сучасную назву мае з 1953 года. Вядучая ўстанова ААН па каардынацыі дзейнасці па праграмах для дзяцей. Асноўныя крыніцы фінансавання – добраахвотныя ўзносы ўрадаў краін, ахвяраванні грамадскіх арганізацый і прыватных асоб. Сакратарыят знаходзіцца ў Нью–Ёрку. Узнагароджаны Нобелеўскай прэміяй міру.

■ ДОЎГАЖЫХАРЫ

# Сакрэт даўгалецця Панассі

**СМАРГОНЬ. Свае 107-я ўгодкі доўгажыхарка Панасся Антонаўна Баравая адзначыла 3 кастрычніка – напярэдадні святкавання 500-годдзя Смаргоні. Яна не карэнны жыхар нашага горада, тут яна жыве на працягу апошніх пяці гадоў у малодшай дачкі, Марыі Казіміраўны Ус.**

Ужо той факт, што яна можа назваць канкрэтную дату свайго нараджэння, здзіўляе, бо нават маладзейшыя за яе людзі не могуць гэтага зрабіць па прычыне таго, што не ведалі альбо не памятаюць гэтую дату, альбо не маюць дакумента, які можа пацвердзіць факт іх з'яўлення на белы свет. Таму ў многіх старажылаў у пашпарце пазначана сярэдзіна года – 1 ліпеня. Панасся Антонаўна добра памятае, што з'явілася на свет у кастрычніку – перад Пакровамі.

Нарадзілася і амаль усё сваё жыццё пражыла ў Вілейскім раёне, у вёсцы Баравыя, якая знаходзілася прыкладна ў 40 кіламетрах ад райцэнтра. Па праўдзе кажучы, з бабуляй цяжка размаўляць, таму нашым "перакладчыкам" выступае яе дачка. Па словах Марыі Казіміраўны Ус, "вёска размяшчалася ў лесе, у бары, таму так і называецца Баравыя, і прозвішча ў жыхароў гэтай вёскі было аднолькавае – таксама Баравыя. Панасся Антонаўна выйшла замуж, нарадзіла і выгадавала сямёра дзяцей – 5 сыноў і 2 дачок. Цяпер у яе 15 унукаў і 11 праўнукаў".

Панасся Антонаўна добра памятае Мікалаеўскую вайну (1914 года) – менавіта так яна яе называе, — як спалілі іх хату, як доўгі час прыйшлося жыць у зямлянках, як не было чаго есці, хлеб пяклі з лістоў папараці ці з верасу, крыху мукі дадавалі, а сапраўдным прысмакам лічылася крапіва. Не лягчэй было і ў час Вялікай Айчыннай вайны – мужа забралі на вайну, а ў хутказ часе яго сур'ёзна кантузіла. Сама ж Панасся Антонаўна ў гэты час актыўна падтрымлівала партызанаў, карміла іх, на начлег пускала.

Увесь час ёй прыходзілася шмат працаваць, яна і на палявых работах хадзіла, і свінаркай працавала, 50-60 вёдзер за адно кармленне цягала, і рабіць гэта трэба было 2-3 разы на дзень.

— Цяжка было, нясеш во так, — падтрымлівае бабуля нашу з Марыяй Казіміраўнай размову, паказвае, як трымала вёдры ў руках, і надзімае шчокі, — нікому "пашчады" не было, не было спуску.

Дома была вялікая гаспадарка – каровы, авечкі. Кожнае дзіця мела свой хатні абавязак, які выконваўся без нагамінаў.

Усё жыццё Панассі Антонаўны нельга назваць лёгкім: хіба гэта лёгка застацца ў 3 гады сіратой (маці памерла), пахаваць мужа і двух сыноў у маладым узросце. І хоць за апошнія пяць гадоў яна перанесла 2 інсульты, але яшчэ рухаецца і размаўляе, не надта добра чуе, а вось яе зроку можна пазайздросціць нават маладому.

Калі гаварыць пра рэцэпт даўгалецця Панассі Антонаўны, то яго можна акрэсліць наступным чынам: чалавек выхоўваецца ў экстрэмальных умовах, яны закаляюць яго цела і з кожным разам умацоўваюць душу. Цяжкая фізічная праца, простая ежа і свежае паветра – вось што можа гарантаваць доўгія гады жыцця. Безумоўна, жывучы ў доме з усімі выгодамі, Панасся Антонаўна прывыкла да некаторых прыкмет цывілізацыі, а вось піць "магазінную" гарбату і цяпер не згаджаецца, аддае перавагу розным травам – рамонку, чабору. Магчыма, травы і падтрымліваюць да гэтага часу яе жыццёвыя сілы.

**Галіна АНТОНАВА.**

■ СУСТРЭЧЫ

## З хлебам-соллю

**АСТРАВЕЦ. Гасцінна сустракалі сваіх суседзяў – бібліятэкараў з літоўскага горада Укмерге – іх астравецкія калегі. Раней астравецкія бібліятэкары таксама былі ў Укмерге і вярнуліся адтуль ў захапленні.**

У сваю чаргу беларускія сябры паказалі сваім гасцям, да сустрэчы з якімі рыхтаваліся загадзя, усё лепшае. Ім спадабаўся стогадовы Гервяцкі касцёл і дэндрарый, які разбіў вакол яго настаяцель храма айцец Леанід. Цёпла сустракалі замежных гасцей і ў цэнтры літоўскай культуры ў Рымдзюнах.

**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

■ СВЕТ ЗАХАПЛЕННЯЎ

# Гарадскія прыгажуні ў глыбінцы

**ВАЛОЖЫН. Шмат гадоў Галіна Васільеўна не належала сама сабе. Спачатку ў яе жыцці былі школа і дзеці (менавіта ў такім парадку размяркоўваліся месцы), грамадская работа, у больш сталым узросце ўзваліла на сваe плечы праблемы аднавяскоўцаў і стала іх паўнамоцным прадстаўніком усюды, дзе трэба было дабівацца праўды.**

А яшчэ былі вялікая гаспадарка, прысядзібны ўчастак. Ва ўсе часы Г.В.Кароль ведала, што з яе, дырэктара Узбалацкай васьмігадовай школы, што на Валожыншчыне, настаўніцы, самае вялікае запытанне. Планку высока ўзняла сама і, нягледзячы на тое, што вольнага часу не ставала, у двары і на агародзе заўсёды ўсё было на "пяць". А яшчэ неабходна было шмат чытаць, бо перш за ўсё яна заставалася настаўніцай рускай мовы і літаратуры. На астатнія захапленні, а іх таксама нямала, даводзілася ўрываць-ахвяраваць гадзіны сну.

Кветкі сталі сапраўднай аддушынай. Яны ўзнімалі настрой, калі было цяжка. З імі, як з жывымі істотамі, настаўніца размаўляе, пяшчотна лашчыць, дзякуе за прыгажосць. З імі ажывае яе лірычная натура. Расліны прымушаюць падняцца з першымі промнямі сонца, каб паглядзець, як яны абуджаюцца і раскрываюць свае рознакаляровыя галоўкі. На яе падворку і ў кветніку высаджаны 123 найменні кветак, сярод якіх 29 аднагадовых. Яны ўражваюць не толькі сваёй прыгажосцю, разнастайнай колеравай гамай, але і мудрагелістымі назвамі, запомніць якія адразу я не змагла. Гонар натуралісткі – асцільба белая, бледна- і цёмна-ружовая, іх прывезла з Юрмалы, дзе аднойчы за ўсё жыццё давялося адпачываць. Тады ёй, вясковай настаўніцы, падалося, што трапіла ў казачнае царства, на кветкавы баль. Асцільбу, сёння ўжо можна прызнацца, выкапала з санаторнай клумбы сцізорыкам ноччу перад ад'ездам. А ўвогуле тады накупіла столькі сартавых кветак – цыбуліны нарцызаў, цюльпанаў, іншыя шматгадовыя, што мужу давялося высылаць грошы на білет. Не ва ўсіх заўзятых кветкаводаў ёсць іпамея, а на ўзбалацкім кветніку вось яна – блакітная, сіняя, ружовая. Кветкі гэтай расліны раскрываюць свае галоўкі толькі з сонейкам. Калі заплятаюць рознакаляровыя прыгажуні ўвесь плот, то ён ператвараецца ў суцэльны стракаты дыван. Асцільбы не адны тут з сямейства вітковых. Ёсць у калекцыі ружа пляцістая, таксама рознага колеру, ёсць клемацісы, для якіх зроблена арка. Увогуле, вітковыя знаходзяцца ў любімчыках у Галіны Васільеўны.

Першыя кветкі з'яўляюцца ў гэтым вясковым кветніку звычайна да 8 Сакавіка. А сёлетняя вясна паднесла гаспадыні непрыемны сюрпрыз: настолькі запазнілася, што першынцы расцвілі толькі 16 красавіка – жанчына нават дакладна запомніла дату.

Асноўная частка падворка аддадзена кветкаваму багаццю. Перад самым домам расгуць "векавыя" дрэвы, якія сваімі карэннямі аблыталі зямлю. Пасадзіць там што-небудзь проста немагчыма. Кемлівая гаспадыня стала яшчэ і дызайнерам, знайшла выйсце: ніякі посуд накшталт дзіравых тазоў, каструляў ці бачкоў, старыя кошыкі і нават галёшы цяпер не выкідваюцца на сметнік, а ператвараюцца ў міні-клумбы. І гэта яшчэ не ўсё: кожная такая клумба ўстанаўліваецца на розных прыстасаваннях і ўзроўнях. Можна толькі ўявіць, які за ўсім гэтым неабходны догляд.

Восень ніколькі не зменшыла колькасці квітнеючых раслін у гэтым двары. Проста на змену адным прыгажуням і прыгажунам прыйшлі іншыя: па-ранейшаму радуюць вока ружы, клемацісы, бурна цвітуць петунія, аксамІткі розных адценняў. А дэкаратыўныя сланечнікі Плюшавы Мішка так і цягне памацаць рукамі, бы сапраўдных мішак. Кветкамі восені сама Галіна Васільеўна называе шматгадовыя кітайскія астры, бо яны, бадай што, самыя позція з яе гадаванцаў, толькі-толькі пачынаюць красаваць перад домам і ў садзе. Любіць яна вялікі куст жоўтых кветак, падобных на рамонкі, назву якіх нават не ведае. Сваёй пазалотай яны ўпрыгожваюць двор з першых летніх месяцаў і да маразоў.

Сёлета кветкавод-аматар узяла шэфства над участкам зямлі, дзе яшчэ вясной "буяла" несанкцыяваная звалка смецця. Калі з дапамогай мясцовай улады навялі парадак, Галіна Васільеўна насадзіла там розных кветак. А з каменьчыкаў выклала настаўніцкай рукой немудрагелістую фразу: "Дабра вам, людзі!". Старанна даглядала і за гэтымі сваімі гадаванцамі. Яны цвітуць яшчэ і сёння: радуюць вока рознакаляровыя астры, петуніі, іншыя прыгажуні. Сама прырода як бы аддзячыла жанчыне за старанне і дабрыню. Удзячны ёй і вяскоўцы.

Шмат гадоў захапляецца яна лекавымі травамі, якім таксама ёсць месца на клумбах. Спачатку радуюць сваім гаючым водарам, а зімой – разнастайнымі чаямі-напоямі. Перш чым пасябраваць з гэтымі раслінамі, Г.В.Кароль перачытала шмат спецыяльнай літаратуры.

Нарэшце завершана галоўная сялянская работа – убрана бульба. Але для аматаркі кветак настае не менш адказны перыяд: перасадка на новыя месцы цыбульных раслін, укрыванне любімцаў на зіму. Тут ніяк не абыдзешся без дапамогі гаспадара, Аляксандра Адамавіча. Лапнік, сухое лісце, плёнка, груз – чаго толькі не прыдумалі гэтыя людзі, каб надзейна абараніць кветкі ад моцных маразоў.

А ў зімовыя месяцы Галіна Васільеўна аддаецца яшчэ аднаму свайму захапленню – вышыванню. І тут знаходзяць увасабленне кветкавыя кампазіцыі, някідкія, на першы погляд, сціплыя нацюрморты, якія патрабуюць карпатлівасці. Вельмі ганарыцца майстрыха вышыванкай, зробленай з нямецкай паштоўкі 1856 года, якая належала яшчэ прабабулі. Галіне Васільеўне ўдалося максімальна падабраць колер нітак, і здаецца, што на сцяне вісіць карціна, напісаная фарбамі. Увогуле, у гэтай таленавітай, неардынарнай вясковай жыхаркі не толькі ўмелыя рукі, але і цвярозы розум даследчыка. Задалася мэтай і "вырасціла" генеалагічнае дрэва, потым прыгожа аформіла сямейныя альбомы кожнаму з чатырох сваіх дзяцей, каб ужо іх дзеці, а яе ўнукі, дасканала ведалі сваю радаслоўную. Можна толькі шчыра пазайздросціць яе празе да жыцця, да новых адкрыццяў!

**Наталля ШТЭЙНЕР.**



Свет упрыгожваюць дзівакі і кветкі.

Фота ByMedia.net

■ ДА 55-х УГОДКАЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ПАЭТКІ ЯЎГЕНІІ ЯНІШЧЫЦ

# Аўтограф з юнацтва развярэдзіў душу

**З Яўгеніяй Янішчыц я пазнаёміўся ў гады студэнцтва на адной з літаратурных вечарын у Палацы прафсаюзаў у Мінску ў 1967 годзе. Жэня тады вучылася ва універсітэце, я – у педінстытуце.**

У яе ўжо было шмат публікацый, і тыя, хто тонка адчуваў слова, разумелі, што ўзыходзіць зорка на паэтычным небасхіле. Напярэдадні знаёмства падборка і маіх вершаў была змешчана ў газеце "Чырвоная змена". Жэня ўспомніла гэтую публікацыю і павіншавала мяне з дэбютам. Выглядала яна вясёлай, апантанай жыццём. Без асаблівай прычоскі. Чорная спаднічка вышэй калена, белая кофтачка. Невысокага росту, уся такая крамяная, прамяністая, як ранішняя кветка. Пасля вечарыны я праводзіў яе ў інтэрнат БДУ, дзе яна жыла. Тады вуліца мела назоў – Паркавая магістраль, цяпер – праспект Машэрава. Пасля былі спатканні. Абдымаліся-мілаваліся. Успомнілася семяжонаўскае: "Маладому з маладою маладое ў галаве".

Але сустрэчы нашы былі рэдкімі, ніколі не пераходзілі нейкай мяжы дазволенага. Чысціня яе палескай душы была настолькі адкрытай, што нельга было і падумаць пра нешта, што б магло Жэню пакрыўдзіць. Звычайна, калі прыходзіў у інтэрнат, Жэня з сяброўкамі ў сваім пакоі ладзілі няхітры стол, дарэчы, была і бутэлька віна, хутчэй для формы, чым была ў гэтым патрэба. І спявалі яны песні: народныя, з ясяльдзянскіх сховаў. Як казала Жэня, "маміны песні". Я такіх не чуў, бо выхоўваўся ў школе-інтэрнаце, дзе засвойваў мелодыі тыпу: "В коммунистической бригаде – с нами Ленин впереди". Захавалася ў мяне пісьмо Жэні Янішчыц. Зіму і вясну 1968 года я правёў на педагагічнай практыцы ў Сцешыцкай сярэдняй школе на Вілейшчыне. Туды ліст яна мне і даслала.

«Добры дзень, Мікола!

Нарэшце маю вольную хвіліну напісаць табе некалькі радкоў. Гэты тыдзень не было для мяне амаль ніякага супакою – запісы на радыё, выступленні, секцыі ў Саюзе, шматлікія другія справы. У сераду адбыўся ў Доме афіцэраў вялікі вечар паэзіі. Прысутнічалі з Масквы – Баруздзін, Старшынаў, Мікалаеў, мой перакладчык Рыленкаў. У лютаўскім нумары "Дружбы народаў" змясцілі маіх некалькі вершаў. Настрой ужо вясновы, трывожны, таямнічы. Дзіўна, што на ўсё не хапае часу. Праводжу ў сваёй паэзіі новы эксперымент. Не ведаю, наколькі мне гэта ўдасца, але задума прываблівае мяне ўсё больш і больш. Праўда, мураваныя сцены некалькі скоўваюць маю даль, таму, напэўна, паеду на днях у Дом творчасці, у Каралішчавічы: вясна заўсёды дзейнічае на мяне па-асабліваму. Выйшаў наш універсітэцкі зборнік "Натхненне". Я не вельмі задаволена сваёй падборкай – 10 клас. Зараз афармляем другі.

А ў Вас ёсць гэты зборнік? Пішы. У вас там, напэўна, прыгажэй?!

З прывітаннем Ж.Янішчыц.
13.III.1968 г.»

Памятаю сустрэчу ў чэрвені 1968 года ў рэстаране "Папараць-кветка", куды я са сваім сябрам Святаславам Клямячыцам запрасілі Жэню. Як казалі ў студэнцкім асяроддзі, "замачыць дыплом". Мы ўжо развіталіся з Мінскам, педінстытутам і ад'язджалі на працу. Сябар мой прыйшоў са сваёй сяброўкай. Шмат танцавалі. У той вечар Жэня падарыла мне альбом з відамі Масквы. Здарылася так, што на нейкі час я пра альбом забыўся, успомніў пра яго, як выйшлі з рэстарана. Давялося вярнуцца, папрасіўшы прабачэння. Столік наш быў ля акна, і ён ляжаў на падаконніку. Гэту акалічнасць можна было "спісаць" на віно. Альбом у мяне захоўваецца і цяпер. Шкада, што без аўтографа. Чамусьці тады не падумалася пра аўтограф.

Гады, гады... Мінула больш за тры дзесяткі. Успомніць дакладна пра што гаварылі пры сустрэчах, не магу, а выдумаць не маю права. Запісаў я ніякіх не вёў. Чыталі вершы адзін аднаму. Нешта расказвала яна пра пісьменнікаў, над нечым смяяліся. Было такое адчуванне, што Жэня больш жыла ўнутраным светам, цяжка было затрымаць яе позірк, бо скіраваны ён быў у нейкую даль. Можа, я гэтага чалавека не зусім разумеў. Але на спатканні Жэня прыходзіла заўсёды. Зімой звычайна сустракаліся ў кафэ "Адпачынак", што насупраць кінатэатра "Перамога". Нашыя ўзаемаадносіны з вышыні сённяшняга ўзросту я назваў бы "юначым захапленнем". Наўрад ці ўспамінала яна мяне праз гады, тым больш, што паэта з мяне не атрымалася. Пісаў я вершы рэдка, друкаваў іх яшчэ радзей. Апошні раз спаткаў Жэню Янішчыц ў рэдакцыі часопіса "Маладосць", дзе яна загадвала аддзелам паэзіі. Убачыўшы мяне, сказала: "А, філолагі, заходзьце, заходзьце...". Праўда, вершы, якія я ёй тады пакінуў, не былі надрукаваныя. Пэўна, аказаліся слабымі, але па тэлефоне яна казала, што рэдакцыя пераехала ў новае памяшканне і дзесьці мае вершы згубіліся. Можа, і так. Ёсць у мяне кніга "Дзень паэзіі за 1966 год" з аўтографам Жэні Янішчыц: "Міколу Кутасу – з надзеяй, што і ён у будучым падорыць мне свой аўтограф. Жадаю шчасця!".

**Мікола КУТАС,**
**бібліятэкар Абадоўскай сельскай бібліятэкі. Вілейскі раён.**

